


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 10 (396) — Нядзеля, 9 сакавіка 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12

# Масква імкнецца да лёгкага выйгрышу

Справа скліканьня канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні на працягу некалькіх апошніх месяцаў ня сходзіць з парадку дня міжнароднае палітыкі. Спасярод пытаньняў, якія-б на гэтай канфэрэнцыі хацеў-бы парушыць Савецкі Саюз з аднаго боку, а заходнія дзяржавы — з другога, найважнейшымі й найбольш супярэчнымі зьяўляюцца наступныя. Амэрыка, побач іншых і менш важных пытаньняў, хацела-б каб на парадку дня канфэрэнцыі стаялі пытаньні вольнасьці краінаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы й справа задзіночаньня Нямеччыны. Саветы-ж наважаныя дамагацца на канфэрэнцыі ліквідацыі амэрыканскіх ваенных базаў, у першую чаргу базаў для атамнага й вадароднага аружжа на чужых тэрыторыях, а таксама стварэньня ў Эўропе бязатамнага пояса.

Ня трэба быць вялікім палітыкам, каб зразумець, што амэрыканскія прапазыцыі ў ніякім выпадку ня могуць быць прынятыя Саветамі, і наадварот, Амэрыка напэўна ня згодзіцца прыняць патрабаваньні савецкія. Савецкі Саюз ужо некалькі разоў катэгарычна асьветчыў, што парушаньне на канфэрэнцыі справы дзяржаваў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы было-б уменшваньнем у нутраныя справы гэтых дзяржаваў, а пытаньне задзіночаньня Нямеччыны павінен разьвязаць сам нямецкі народ, канкрэтна ўрады Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі й Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Амэрыка, высоўваючы два гэтыя пытаньні, правільна ўважае, што якраз яны зьяўляюцца галоўнай прычынай завойстранага міжнароднага напружаньня ды што якраз без разьвязаньня гэтых пытаньняў нельга дасягнуць жаданага адпружаньня. Савецкі аргумэнт, што парушаньне на канфэрэнцыі справы краінаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы было-б умешваньнем у іхныя нутраныя справы, выглядае камічна, калі ўзяць на ўвагу найбольш грубы й нахабны факт такога ўмешваньня, якое практыкуецца ўсьцяж Саветамі ў гэтых краінах улучна да збройнага здушэньня вугорскага паўстаньня. Савецкае дамаганьне, каб справа задзіночаньня Нямеччыны была вырашаная самым нямецкім народам за пасярэдніцтвам двух нямецкіх урадаў, раўнялася-б скамунізаваньню ўсяе Нямеччыны, як гэта яшчэ ў свой час заяўляў Молатаў. Калі-б Саветы згадзіліся, каб на тэрыторыі Ўсходняй Нямеччыны й сатэлітных краінаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы былі праведзеныя запраўды свабодныя выбары пад міжнароднай кантроляй, дык гэтым самым яны страцілі-б раз назаўсёды гэтыя краіны. Гэта Масква вельмі добра разумее й таму ніколі на гэта ня згодзіцца.

Калі-ж ходзіць пра савецкія прапазыцыі, робленыя Захаду, дык яны ў такой-жа меры зьяўляюцца немагчымымі для Амэрыкі. Сяньня найвялікшай гарантыяй міру зьяўляюцца якраз амэрыканскія ваенныя базы, якія густым поясам акружаюць Савецкі Саюз. Калі-б ня гэтыя базы, дык Саветы ўжо даўно маглі-б напасьці на Заходнюю Эўропу ці іншыя прылеглыя да іх краіны й тым самым выбух новай сьветавай вайны стаўся-б няўхільным. Факт існаваньня гэтых базаў і заўсёды гатовых да акцыі бамбавозаў з атамнымі й вадароднымі бомбамі паўстрымоўвае Саветы перад агрэсіяй. Саветы вельмі добра разумеюць, што ні Амэрыка, ні Захад наагул ня маюць ніякіх агрэсыўных намераў і ніколі першымі вайны не пачнуць. Калі-ж, ня гледзячы на гэта, амэрыканскія базы гэтак назойліва дэнэрвуюць Савецкі Саюз, гэта азначае, што апошні ня супраць быў-бы напасьці на суседнія зь ім краіны.

Немагчымым да прыняцьця для Амэрыкі й праект бязатамнага пояса, які сфармуляваны ў г. зв. пляне Рапацкага й змадыфікаваны ў пазьнейшых выказваньнях савецкіх правадыроў. Ажыцьцяўленьне пляну Рапацкага давала-б вялізарную стратэгічную перавагу Саветам у Эўропе. Як ведама, Захад далёка ўступае Саветам у галіне канвэнцыянальнай зброі, затое перавышае іх сваім патэнцыялам атамнае й вадароднае зброі. Адмова Захаду ад гэтае апошняе зброі на тэрыторыі, якая адмяжоўвае абодвы праціўныя блёкі, а згода толькі на канвэнцыянальную зброю стварала-б Саветам магчымасьць дакананьня агрэсіі супраць Заходняе Эўропы. Такім чынам згода на плян Рапацкага была-б вялікай палітычнай і стратэгічнай стратай для Захаду, тады калі для Масквы была-б яна лёгкім і чыстым выйгрышам. Усходняя Нямеччына й краіны Сярэдня-Ўсходняй Эўропы, якія ўвайшлі-б у бязатамны пояс, засталіся-б і надалей у такой-жа меры залежнымі ад Савецкага Саюзу, як і дагэтуль, бо на іхнай тэрыторыі ўсёроўна заставаліся-б савецкія канвэнцыянальныя збройныя сілы. А як ведаем, колькасьць гэтых сілаў там вялізарная.

Ужо толькі вышэй прыведзеныя аргумэнты, здавалася-б, мусілі-б дастаткова прамаўляць за тым, што праектаваная Саветамі канфэрэнцыя на найвышэйшай узроўні не адбудзецца. Такое прыпушчэньне зьяўлялася-б тым больш праўдападобным у сувязі з тым, што Амэрыка неаднаразова станоўча асьветчыла, што яна толькі ў тым выпадку згодзіцца на такую канфэрэнцыю, калі згары будзе ведама, што прывядзе яна да пазытыўных вынікаў, а ня станецца толькі трыбунай для савецкае прапаганды, якой былі многія дасюлешнія канфэрэнцыі, ўлучна з Жэнэўскай канфэрэнцыяй у 1955 годзе. Ды й сама простая лёгіка гаворыць за тым, што пляніваная канфэрэнцыя ,апрача шкоды, нічога іншага для Захаду ня дасьць.

Тымчасам ня гледзячы на ўсе аргумэнты, прамаўляючыя супраць канфэрэнцыі, усе сымптомы гавораць за тым, што гэтая канфэрэнцыя раней ці пазьней усё-ж адбудзецца. Праўда, калі-б усё залежыла ад Амэрыкі, дык гэтая канфэрэнцыя паводля ўсёй праўдападобнасьці не адбылася-б. Але Амэрыка мусіць лічыцца з краінамі Заходняе Эўропы, а ўрады гэтых краінаў — з грамадзкай апініяй свайго насельніцтва. У гэтым узаемным павязаньні й хаваецца ўсё няшчасьце.

Народныя масы заходніх дзяржаваў, галоўна Заходняй Эўропы, дасягнуўшы высокае ўзроўні матарыяльнага дабрабыту, панічна баяцца вайны й за ўсякую цану дамагаюцца міжнароднага адпружаньня, наіўна веручы, што з Саветамі можна дагаварыцца, калі іх не дражніць і пайсьці ім на некаторыя ўступкі. Такія пацыфістычныя настроі асабліва сільныя ў Вялікабрытаніі, далей у Францыі й Заходняй Нямеччыне.

Дзеля прыкладу можам узяць маніфэст брытанскай лейбарыстаўскай партыі й прафэсіянальных саюзаў, абвешчаны 6 сакавіка сёлета. Два наступныя пункты гэтага маніфэсту маюць асаблівую вымову: 1. **адлажыць будову амэрыканскіх ракетных базаў на тэрыторыі Вялікабрытаніі да часу скліканьня канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні! 2. забараніць патрольныя лёты амэрыканскіх і брытанскіх самалётаў з вадароднымі бомбамі над Вялікабрытаніяй.**

Ужо толькі гэты маніфэст зьяўляецца не малым савецкім дасягненьнем, а калі-б гэтыя пункты маніфэсту прыняў і брытанскі ўрад, дык гэтае дасягненьне сталася-б вялікім савецкім выйгрышам.

Яшчэ да канфэрэнцыі здабылі Саветы не малыя выйгрышы і ў іншых галінах. У той час, калі Амэрыка й нада-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# З чым-жа выступяць?

Ад 26 да 28 лютага сёлета ў Менску праходзіла сэсія філялёгаў Беларусі й Акадэміі навук СССР, скліканая аддзелам літаратуры й мовы Акадэміі навук СССР і аддзелам грамадзкіх навук Акадэміі навук БССР. Апрача навукоўцаў Беларусі й Масквы, у працы сэсіі прынялі ўдзел таксама й госьці Ўкраіны, Летувы й інш. Сэсія была прысьвечана падрыхтоўцы да IV Міжнароднага зьезду славістых, які павінен адкрыцца ў Маскве ў верасьні гэтага году.

Ведама, гэта зусім новае зьявішча ў культурным жыцьці БССР, бо гэта першая сэсія падобнага характару пасьля той першай канфэрэнцыі па рэформе правапісу й графікі беларускае мовы, скліканай Інстытутам беларускай культуры ў 1926 годзе. Новае зьявішча й тым, што беларускія навукоўцы першы раз падрыхтоўваюцца да IV Міжнароднага зьезду славістых, як прадстаўнікі «асобнай славянскай дзяржавы, прыймаючы ад імя гэтае «дзяржавы» актыўны удзел у працы зьезду.

Ня будзем закранаць пытаньня, чым было вызвана гэтае зьявішча, зазначаючы аднак, што яно цесна зьвязанае з жаданьнем Масквы прадэманстраваць перад народамі вольнага сьвету прынцыпы сваёй нацыянальнай палітыкі, з другога-ж боку, што гэтае «жаданьне Масквы» стымулявалася ў значнай долі агульным беларускім нацыянальным супраціўам перад гвалтоўнай дэнацыяналізацыяй.

Тут цікавае пытаньне, якое нас трывожыць больш за ўсё, гэта, — з чым беларускія навукоўцы выступяць на IV Міжнародным зьезьдзе славістых? Ведама, што на працягу трох з хвосьцікам дзесяткоў гадоў не вялося ніякай навуковай працы ані ў галіне беларускай мовы, ані ў галіне беларускай літаратуры, ані ў галіне гісторыі культуры беларускага народу. Тое, што было здабыта ў навуковай галіне ў 1920-х гадох, было зьнішчана ці забаронена ім карыстацца. Гэтая-ж забарона ляжыць на тэй навуковай спадчыне й цяпер. Актуальная-ж нацыянальная палітыка Масквы, хоць яна крыху й зьмякчэла, таксама ня можа дазволіць беларускім навукоўцам заняцца аб'ектыўным вывучэньнем пытаньняў культуры народу, ды й часу засталося ня так ужо шмат! Застаецца, такім чынам, адзін выхад: пазычыўшы вочы й сумленьне ў «старэйшага брата», абманваць міжнародную апінію пры дапамозе схвальшаванай беларусаведы.

У якім-жа палажэньні апынецца Беларусь, гэтая савецкая «славянская дзяржава», як пра яе выразіўся акадэмік У. Перцаў?

**П. Залужны**

# Майстры на ўсе рукі

«Прыяцелі! Ваш тыднёвік — забаронены. Прыйшло нам на думку аднавіць ягонае выданьне ў вольным сьвеце. Не як часапісу эміграцыйнага, але Вашага собскага. Часапісу, у якім Вы будзеце выкладаць свае ідэі, якія будзе ў Вас распаўсюджвацца — з рук у рукі — які будзе служыць справе Вашай свабоды».

Гэткімі славамі пачынаецца ўступны артыкул двубачыннае газэткі «По просту», на якой стаіць «Варшава, 30. 1. 1958, № 1» (у запраўднасьці выдадзенай у Нямеччыне). Артыкул падпісаны: **«НТС, Галоўны штаб».**

Гэтую вестку мы знаходзім на бачынах польскага месячніка «Культура» (№ 3/125), што выдаецца ў Парыжы.

Калі-б варона засьпявала салаўём, дык было-б меншае дзіва, чымся тое, што «Национальный Трудовой Союз» расейскіх салідарыстых выступіў у ролі ... прадаўжальніка «По просту».

Хто ведае НТС не з таго, што ягоныя сябры самі аб сабе гавораць, ня зь іхняе часамі вельмі нізкае самарэклямы й пустога самахвальства, а якраз зь іхняе практычнае «дзейнасьці» ў мінулым і некаторых афэраў у сучасным, ды з другога боку хоць сабе й нярэгулярна чытаў «По просту», дык запраўды можа не паверыць, што магло дайсьці аж да гэтага.

«... Служыць справе Вашай свабоды ...» — пішуць яны. Не хапала-б яшчэ толькі каб НТС-аўцы пачалі Палякаў вучыць свабоды! ... Ну, але гэта ўжо ня нашая справа.

Мы наагул толькі дзеля таго спыніліся на гэтым амаль сэнсацыйным выпадку, каб у вагульнаведамай характарыстыцы НТС падчыркнуць адну даволі вымоўную рысу: выкарыстоўваньне вызвольнага змаганьня іншых народаў для свае самарэклямы.

Выбухла паўстаньне ў Пазнані й НТС-аўцы закрычалі: Моў, бачыце! Не казалі мы? І пачалі «салідарызавацца» з падзеямі ў Польшчы. Быццам-бы і яны там зрабілі нейкі свой уклад. Усё для самарэклямы.

Разгарэлася Вугорская Рэвалюцыя. Ізноў тое самае, толькі ў большай ступені .Чалавек неабазнаны з фактамі мог-бы падумаць, што рэвалюцыяй кіруе амаль-што «галоўны штаб» НТС — настолькі яны рабілі шуму, стараючыся ўсякімі спосабамі задэманстраваць свой «уклад», сваю «сілу», свой «уплыў» і «рэвалюцыйнасьць».

І выходзіць, казаў той — «і мы пахалі» ...

А тымчасам прыпамінаюцца пэўныя працэсы й афэры із савецкімі шпіёнамі ў Нямеччыне. А гэтыя апошнія былі ня толькі радавымі сябрамі НТС!

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# За мінулы тыдзень

**(пс)** Масква далей вядзе энэргічную акцыю мэтай якое — змусіць заходнія дзяржавы да канфэрэнцыі на высокім узроўні. Булганін і Грамыка далей пішуць даўжэзныя ноты, хаця нядаўна Айзэнгаўэр выразна прапанаваў Булганіну спыніць гэтую дыпляматычную графаманію.

Каб дабіцца канфэрэнцыі кіраўнікоў, зь якой Масква спадзяецца шмат карысьці для сябе, савецкія дыпляматы быццам-бы зьмякчэлі й пайшлі на «ўступствы».

Як ведама, заходнія саюзьнікі абумаўлялі канфэрэнцыю кіраўнікоў дзяржаваў дакладнай дыпляматычнай падрыхтоўкай, а, перадусім, нарадай міністраў замежных справаў. Масква доўгі час адкідала гэтыя дамаганьні. Пры гэтым бальшавіцкія кіраўнікі выразна падчырквалі, што гутаркі з Далесам непажаданыя й ня могуць спрычыніцца да паразуменьня. Адначасна бальшавікі над галовамі заходніх урадаў зьвярталіся да заходняга грамадзтва, агітуючы й пераконваючы, што толькі зь віны заходніх кіраўнікоў ня можна дабіцца ўрэгуляваньня спорных праблемаў, а, перадусім раззбраеньня.

Хаця савецкая прапаганда ўжо больш за месяц не паведамляе свайму грамадзтву аб рачовых і канструктыўных аргумэнтах Айзэнгаўэра ў ягоным звароце да Булганіна, аднак заходняя прэса дакладна пераказвае сваім грамадзянам агітатарскую дэмагогію й пагрозы бальшавіцкіх кіраўнікоў. Як бачым, Хрушчовы й Булганіны ня толькі абдурваюць падсавецкія народы сваёй нахабнай прапагандай, але й маюць змогу выкарыстоўваць свабодную заходнюю прэсу для прапаганды патрэбнай ім дэмагогіі.

Адным з «уступстваў» Масквы была нечаканая згода на нараду міністраў замежных справаў. Праўда, гэтая згода абумаўляецца тым, што на гэтай нарадзе, якая мае адбыцца ў красавіку, можна толькі дамовіцца адносна часу, месца й складу ўдзельнікаў канфэрэнцыі на «высокім узроўні» без апрацаваньня парадку дня. Хітрыкі маскоўскіх верхаводаў выразныя, калі ў іх разьбірацца, але, нажаль, у іх не разьбіраецца ангельскі ляндлёрд, італьянскі контадзіно, француcкі рэнт'е ці амэрыканскі фармэр. Яны панічна баяцца вадародных бомбаў, балістычных ракетаў і «спутнікаў», яны кажуць сваім урадам: «мы вас выбралі, мы вам плацім, вы мусіце дагаварыцца з Булганінам. А як дагаварыцца — яны ня ведаюць і ня хочуць ведаць.

Сяньня ўжо можна прадбачыць, што навет нарада міністраў будзе прапагандовай арэнай для бальшавікоў. Ведама, што яны будуць дамагацца канфэрэнцыі ў пашыраным складзе, г. зн. кіраўнікоў дзяржаваў НАТО й Варшаўскага Пакту. Такім чынам, на канфэрэнцыі кіраўнікоў дзяржаваў маскоўскія мар'янэткі ў Чэхаславаччыне, Румыніі й Вугоршчыне прадстаўлялі-б быццам-бы суверэнныя дзяржавы й гутарылі з Айзэнгаўэрам, Макміланам ды іншымі як роўныя з роўнымі.

Няма сумлеву, што Грамыка, як заўсёды, будзе дамагацца ўдзелу камуністычнага Кітаю, што вельмі вітала-б Ангельшчына, але што будзе немагчымым для Амэрыкі. Будзе яшчэ адна нагода аблаяць Далеса. Булганін навет камбінуе праз кухонныя дзьверы ўвесьці мар'янэтку Гротэволя, бо ў сваёй апошняй ноце прапануе падпісаньне міру з абедзьвюма Нямеччынамі. Аднак і далей Булганін наважана адкідае ўсякія гутаркі што да задзіночаньня Нямеччыны.

У канцы, калі навет пасьля цяжкародных боляў міністры дамовяцца адносна месца, часу й складу ўдзельнікаў — застанецца неразьвязанае пытаньне парадку дня. Аб чым бальшавікі згодзяцца гаварыць? Рэч зразумелая, як яны ўжо сказалі, яны ня будуць разглядаць справы задзіночаньня Нямеччыны на дэмакратычных асновах і вызваленьня краінаў Усходняй Эўропы. Гэтую апошнюю праблему Булганін называе «умешваньнем у нутраныя справы суверэнных народаў». Значыцца, каб гаварыць з бальшавікамі, Захад мусіць ісьці на ўступствы. А, як выглядае, гэтых уступстваў было і так шмат зашмат, што кажнае наступнае можа быць згубным.

Вось-жа, калі мы на пачатку прыгадалі савецкія «уступствы», трэба сказаць і яшчэ аб адным: Булганін, каб заахвоціць і пацешыць Айзэнгаўэра, згадзіўся гаварыць аб ... дэмілітарызацыі касмічных пpастораў.

Дарэчы, на канфэрэнцыі на «найвышэйшым узроўні» варта было-б адразу падзяліць Месяц на сфэры ўплываў. Можа незадоўга людзі будуць езьдзіць туды на канікулы, і паўстануць новыя спрэчныя праблемы ды новая мітусьня на «высокім узроўні» ...

Факт, што Масква дамагаецца хуткага скліканьня канфэрэнцыі можна тлумачыць ейнымі плянамі перашкодзіць стварэньню базаў кіраваных ракетаў у некаторых краінах НАТО. Яна, не бязь слушнасьці, спадзяецца, што пасьля канфэрэнцыі можа паўтарыцца славуты «дух Жэнэвы», ілюзіі адпружаньня, а заходнія краіны звольняць тэмпа азбраеньня, пакуль ізноў бальшавікі памолатаўску не разаб'юць гэтых ілюзіяў, але тады, калі ім будзе выгадна.

Як заходнія дыпляматы разап'юць гэтае горкае піва, якое варылі сорак год — пакажа будучыня ...

# Значэньне „Disengagement"-у

**Ад Рэдакцыі.** У працягу апошніх месяцаў вельмі — навет гарачкава — узрасла дыпляматычная актыўнасьць паміж падкамуністычным Усходам і краінамі вольнага сьвету. Адзін за адным зьяўляюцца «звароты», «пляны», сыплюцца прапановы й контрапрапановы — усе, быццам-бы, з мэтай выклікаць міжнароднае адпружаньне. Ініцыятарам гэтай дыпляматычнай атакі быў, як ведама, Савецкі Саюз, які, дарэчы, і зьяўляецца галоўным віноўнікам цяперашняга напружаньня. Якія ягоныя запраўдныя мэты цяпер? Што хаваецца за ягонымі прапановамі? Калі ён запраўды жадае цяпер міжнароднага адпружаньня, дык якой цаной? На гэтых пытаньнях мусіць спыніцца кажны цьвярозы чалавек.

Ніжэй зьмяшчаем артыкул ведамага амэрыканскага журналістага Сульзбэргэра, сталага супрацоўніка газэты «Нью Ёрк Таймс». Сульзбэргэр закранае адну із шмат дыскутаваных прапановаў камуністычнага блёку — г. зв. плян Рапацкага — і аб'ектыўна раскрывае ейную сутнасьць ды пазьнейшыя вынікі для вольнага сьвету. Уважаючы гэты артыкул цікавым і вартым увагі, усё-ж із свайго боку лічым аптымізм аўтара неапраўданым, калі ён піша аб магчымасьці асягненьня **дзейснага** пагадненьня із СССР.

✳

У Эўропе апошнім часам сталася містычным слова „Disengagement". У шырокім значэньні яно азначае зьменшаньне напружаньня між Усходам і Захадам шляхам вайсковай нэўтралізацыі зоны ў цэнтры кантынэнту. Гэта, як шмат хто думае, зьменшыла-б небясьпеку атамнай вайны паміж Савецкім Саюзам і Задзіночанымі Штатамі.

Паводля гэтае тэорыі, шансы міру на сьвеце ўзрасьлі-б пры дапамозе наступнай працэдуры: збройныя сілы, разьмешчаныя ў Заходняй Нямеччыне, з аднаго боку, і ў Усходняй Нямеччыне, Польшчы й Чэхаславаччыне, з другога — павінны быць пазбаўленыя атамнай зброі. Эвэнтуальна чужыя збройныя сілы — перадусім Задзіночаных Штатаў і Савецкага Саюзу — былі-б эвакуаваныя з гэтае нэўтральнае Зоны.

У мінулым, розныя прапановы былі высоўваныя людзьмі самых розных палітычных поглядаў. Тры гады таму, Ідэн гаварыў даволі неакрэсьлена ў гэтым кірунку. На гэтую тэму разважае Сэр Джон Слессор, пэнсіянаваны брытанскі маршал паветраных сілаў. Тое-ж робяць лідэр ангельскай партыі лейбарыстых Гэйцкэл і адзін з экспэртаў замежнае палітыкі гэтае-ж партыі Гілі. Джордж Кэнан выклікаў вялікую зацікаўленасьць, закрануўшы гэтае пытаньне ў сваім цыклі лекцыяў у Бі-Бі-Сі. А гэтак званы плян Рапацкага — польскага міністра замежных справаў — справакаваў жывыя камэнтары.

Гэтая дыскусія — зьява здаровая. Яна паказвае на імкненьне шукаць новых шляхоў да адпружаньня. Але ці „Disengagement" запраўды зьяўляецца ўнівэрсальным лекам? Не. Плян Рапацкага — гэта нічога больш, як сэрыя вытрымак з прамовы ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, прэсавых інтэрв'ю ды прыватных гутарак з дыпляматамі. Да гэтага часу няма навет дзейнага, распрацаванага праекту.

### МЭТА ПАЛЯКАЎ

Палякі маюць у гэтым выпадку дзьве палітычныя мэты. Як і кажны, яны жадаюць зьменшыць небясьпеку вайны ды спрычыніцца да раззбраеньня. Яны таксама спадзяюцца спрычыніцца да канчатковага зьнікненьня савецкіх збройных сілаў з Усходняй Нямеччыны й Польшчы. Ніводзін Паляк ня можа чуцца запраўды незалежным, будучы ў расейскіх ваенных абцугох.

Таму плян Рапацкага — гэта лягічны польскі падыход. Але што бачыць у ім савецкі ўрад? Перадусім, што, паводля яго, супадае ў гэтым пляне з абвешчаным Хрушчовам намерам захаваць ідэялягічны статус кво Эўропы?

Адказ відавочны. У краёх-сатэлітах Масква пакінула моцныя аддзелы бясьпекі. Таму яна гатовая гуляць на дастаткова высокія стаўкі, спадзяючыся ўтрымаць там рэжым, які яна падтрымоўвае. У выпадку непрадбачаных выбухаў — як, прыкладам, вугорскае паўстаньне — Крэмль перакананы, што ён заўсёды здолее паслаць «пажарныя каманды» із СССР.

На якія стаўкі мог-бы згадзіцца савецкі ўрад, каб уступіць у гульню? Найбольш пажаданым было-б пагадненьне адцягнуць чужыя збройныя сілы з абедзьвюх частак Нямеччыны, з Польшчы, Чэхаславаччыны і, магчыма, Вугоршчыны. Гэта азначала-б вывад зь Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі збройных сілаў саюзьнікаў.

Шмат Немцаў, усе Палякі, Чэхі й Вугорцы зьяўляюцца вялікімі прыхільнікамі такое эвакуацыі; таксама шмат Ангельцаў, Французаў і навет некаторыя Амэрыканцы, што хацелі-б зрэдукаваць выдаткі на абарону. **Але якія-б былі наступствы такога кроку?**

Савецкі ўрад адцягнуў-бы свае збройныя сілы назад у СССР, Ангельцы — у Ангельшчыну, Французы — у Францыю. Але для амэрыканскіх збройных сілаў у Нямеччыне, для іхнага шматлікага абсталяваньня, у Эўропе проста не знайшлося-б месца. **Амэрыканцы мусілі-б адцягнуць свае сілы назад у Паўночную Амэрыку.**

### МЭТА МАСКВЫ

Масква хоча, каб Амэрыканцы пакінулі Эўропу. **Гэта было-б першым вялікім крокам у кірунку павароту Амэрыкі да ізаляцыянізму.** Тады, калі-б здарылася новая «Вугоршчына», Расея магла-б здушыць яе безь вялікага рызыка ўмяшаньня (Захаду).

Крэмль добра ўсьведамляе сабе, што цяпер няма пэрспэктываў на тое, што Амэрыканцы зараз-жа пакінуць Эўропу. Але ёсьць другая магчымасьць. Калі-б было дасягнутае пагадненьне, паводля якога арміі ў Цэнтральнай Эўропе былі пазбаўленыя атамнага ўзбраеньня, Савецкі Саюз на гэтым выграў-бы. **Гэта дало-б Саветам перавагу ў звычайных тыпах зброі.**

Адзінай дзейснай гарантыяй супраць вайны ў Эўропе — гэта існуючая цяпер «раўнавага страху». Амэрыканскія дывізіі патэнцыяльна моцныя тым, што яны забесьпечаныя тактычнай ядзернай зброяй, якая зрабіла-б напад звонку настолькі дарагім, што агрэсар мусіў-бы адступіць або стаць перад аблічам тотальнага самагубства сьвету.

Вось чаму, у дадзены мамэнт, Амэрыканцы ня маюць права згадзіцца на «дэатамізацыю» іхных збройных сілаў у Нямеччыне. Гэта аднак не азначае, што такое пагадненьне ня можа быць дасягнутае пазьней — калі Заходняя Нямеччына разбудуе свае збройныя сілы й пабудуюцца базы балістычных ракетаў сярэдняга радыюсу дзеяньня. У гэтым сэньсе плян Рапацкага не немагчымы, а **перадчасны.**

Галоўная праблема — як зрабіць эвэнтуальнае пагадненьне стопрацэнтова пэўным. Гэта азначае інспэкцыю. **Як** НАТО, так і Варшаўскі Пакт мусяць магчы кантраляваць збройныя сілы адзін аднаго, каб забясьпечыць дзейснасьць пагадненьня.

Плян Рапацкага мусіць быць дэтальна распрацаваны, пасьля прадыскутаваны ў сьвятле рэчаіснасьці, а не ў сьвятле нерэальных лятуценьняў. Абодва бакі могуць з часам згадзіцца на прагрэсыўную, ступенную формулу. Найбольш карысным цяпер было-б разгледзець магчымасьці інспэкцыі. Якія-б ні былі пагадненьні ў будучыні, кажны блёк мусіць быць пэўны, што іншы будзе выконваць узятыя на сябе забавязаньні.

**Цырус Л. Сульзбэргэр**

# Майстры на ўсе рукі

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

Прыпамінаюцца й ранейшыя часы, часы нямецкай акупацыі Беларусі ў часе апошняй вайны. Хіба-ж не забыліся гэтага й некаторыя НТС-аўцы, што «дзеялі» тады на Беларусі?

Цяпер-жа, калі прыслухацца да голасу НТС-аўцаў, дык можна мець уражаньне, што развал СССР — гэта справа навет не гадоў, а проста месяцаў. Паверыць ім, дык выглядае, што прынамся палова крэмлёўскіх кіраўнікоў на чале з Хрушчовам — таксама належаць да НТС ды чакаюць толькі сыгналу «галоўнага штабу», каб ськінуць камуністычную ўладу. А далей вывад напрашваецца сам: Захад не патрабуе зброіцца й не патрабуе ўмешвацца ў «нутраныя» расейскія справы: дайце волю НТС і заўтра — ў СССР рэвалюцыя, а пасьлязаўтра — Масква дэмакратычнае ягнятка.

На чый гэта млын вада — хіба няма патрэбы гаварыць. Навет самі больш салідныя Расейцы няраз ужо камэнтавалі гэты НТС-аўскі «стратэгічны» плян.

Між іншым ува ўспомненым на пачатку польскім месячніку «Культура» паведамленьне Рэдакцыі аб новай дзялянцы дзейнасьці НТС па лініі псэўда-«По просту» загалоўленае вымоўным словам «Перасьцярога». Рэдакцыя «Культуры» падчырквае, што «выданы ў Нямеччыне нумар «По просту» ёсьць на дзіцячым узроўні», ды што ягоныя «рэдактары маюць слабае ўяўленьне аб характары дыскусіяў, ведзеных у Польшчы».

Увесь зьмест «Перасьцярогі» дае падставы меркаваць, што Рэдакцыя часапісу вельмі добра разьбіраецца ў характары самое арганізацыі НТС ды ейных мэтадах, чаго нельга сказаць аб некаторых заходніх дзейніках, якія стараюцца бачыць у НТС нейкую ўяўную прагрэсыўную дэмакратычную рэвалюцыйную сілу.

**А. Галубіцкі**

# Масква імкнецца да лёгкага выйгрышу

**(Заканчэньне зь 1-ай бач.)**

лей бароніць пагляд, што на канфэрэнцыі павінны разглядацца справы краінаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы й задзіночаньня Нямеччыны, брытанскі прэм'ер Макмілян ужо зрэзыгнаваў з гэтых пытаньняў, а патрабуе толькі разгледзіць справу раззбраеньняў, спадзяючыся, што ў гэтай галіне ня цяжка прыйсьці да пазытыўных вынікаў.

Саветы дастаткова разумеюць, што канфэрэнцыя ня прынясе й ня можа прынесьці ніякіх пазытыўных вынікаў. Але якраз такой канфэрэнцыі яны й жадаюць. Ужо сам факт скліканьня канфэрэнцыі дае ім вялікія выйгрышы. Заходняэўрапэйскі абыватаць у сваей наіўнасьці чакае ад гэтай канфэрэнцыі нейкіх цудаў. І ён будзе нявымоўна задаволены ў тым, калі такая канфэрэнцыя зьбярэцца, калі на ёй кіраўнікі заходніх дзяржаваў будуць пацiскаць рукі савецкім верхаводам, узаемна ўсьміхацца, гаварыць розныя камплімэнты ды даваць нічога ня вяжучыя запэўненьні. Усё гэта заходняэўрапэйскі абыватаць будзе ўспрыймаць, як канкрэтныя дасягненьні, падобна як падчас Жэнэўскай канфэрэнцыі 1955 году, тады калі ўзапраўднасьці тут ніякіх дасягненьняў ня будзе. Такім чынам такая канфэрэнцыя, падмацаваная савецкай прапагандай, бясспрэчна прывядзе да псыхалягічнага раззбраеньня й прытупленьня пачуцьця савецкай нябесьпекі..

У сьлед за гэтым узмоцняцца на Захадзе патрабаваньні спыненьня тэмпа збраеньняў, забароны амэрыканскіх ракетных базаў, дамаганьні раззбраеньняў згодна савецкіх плянаў і наагул узмоцніцца ўяўнае пачуцьцё бясьпечнасьці. Усё гэта прадстаўляла-б для Савецкага Саюзу вялікі й лёгка дасягнуты выйгрыш.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Саветы гэтым разам дамагаюцца ўдзелу ў канфэрэнцыі ня толькі чатырох вялікадзяржаваў (Савецкага Саюзу, Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, Вялікабрытаніі й Францыі), як гэта было падчас Жэнэўскай канфэрэнцыі на найвышэйшым узроўні ў 1955 годзе, але ўсіх дзяржаваў — сяброў Атлянтычнага пакту і сяброў Варшаўскага пакту, апрача гэтага і ўдзелу некаторых нэўтральных краінаў, як Індыя й інш. Такім чынам у канфэрэнцыі прынялі-б удзел каля 30 дзяржаваў, пры чым камуністычныя партнэры мелі-б прыблізна такую-ж колькасьць галасоў, што й партнэры заходнія. Праўда, Саветы магчыма згодзяцца й на больш абмежаваны лік удзельнікаў, але ў кажным выпадку будуць катэгарычна патрабаваць, каб на канфэрэнцыі былі рэпрэзэнтаваныя прынамся некаторыя сатэлітныя краіны Сярэдня-Ўсходняй Эўропы. У такім выпадку такія маскоўскія марыянэткі, як Чэхаславаччына й Румынія знаходзіліся-б у роўным палажэньні й на роўных правох, што Францыя й Ангельшчына. А што падобны склад канфэрэнцыі з удзелам савецкіх сатэлітаў зьяўляецца амаль пэўным, можа сьветчыць тое, што Вялікабрытанія ўжо фактычна згадзілася на ўдзел Польшчы й Чэхаславаччыны.

Удзел у канфэрэнцыі сатэлітных краінаў і зраўнаньне іх у правох з заходнімі вялікадзяржавамі было-б пасярэдным вызнаньнем Захадам накінутых Масквой камуністычнага рэжыму ў гэтых краінах і згодай на замацаваньне статусу кво ў Сярэдня-Ўсходняй Эўропе. А гэта таксама было-б не малым выйгрышам Савецкага Саюзу.

Мы часта выказвалі думку, што канфэрэнцыя на найвышэйшым узроўні магла-б стацца карыснай для Захаду й нявыгаднай для Саветаў у тым выпадку, калі-б заходнія дзяржавы прыбылі на канфэрэнцыю з узгодненай і сьмелай палітычнай праграмай, якая-б зьмяшчала ўсе галоўныя прынцыпы заходняй канструктыўнай палітыкі. Нажаль, аб такой праграме ня можа быць сяньня мовы, калі, як мы бачылі вышэй, Вялікабрытанія ўжо цяпер адмовілася ад патрабаваньняў Амэрыкі й фактычна йдзе на згоду зь некаторымі патрабаваньнямі савецкімі.

Гэта ўсё паказвае, што эўрапэйскі Захад яшчэ не дасьпеў да запраўдных вымаганьняў часу й зьяўляецца да некаторай меры толькі цяжарам для далёка прадбачлівай і канструктыўнай палітыкі Задзіночаных Штатаў Амэрыкі.

**Язэп Каранеўскі**

**ВЫКАНАЙ ГРАМАДЗКІ АБАВЯЗАК — ПАШЛІ СВОЙ ДАР САКАВІКА Ў КАСУ ФОНДУ БНР!**



# Творы Максіма Багдановіча 23)

## Да нявыданага зборніка „Шыпшына"

**(1915—1916)**

### АГАТА

Помню — йшла я да ратушы хутка
Паглядзець, як гараць ведзьмакі.
Толькі чую — гукае Марутка:
«Бач, Агата, красунчык які!»

Ў задуменьні, марудная ступою,
Увабраны ў шалом залаты,
Ехаў ён на кані саматою,
А прыгожы, — як Юр'я сьвяты.

Шмат адгэтуль мінулася часу . . .
Ах, калі-б мне ізноў павідаць
І каня, і убранства пакрасу,
І знаёмую сэрцу пастаць!

Я сяджу дзень пры дні ля ваконца
Ды праду апрыкрэлы кужэль,
І гудзе, ўсё гудзе верацёнца,
Як у полі далёкім мяцель.

Ах, чаму я, на што змарнавала
Так свае маладыя гады, —
Ах, чаму я, нашто ня спытала,
Хто ён гэткі і едзе куды!

Толькі-б зьведаць — і з воску хвігуру
Я найменьнем яго ахрышчу,
Выйду ўночы на поле у буру
І закліцце сваё нашапчу.

І празь сьвіст, праз гудзеньне вятрыска,
Цераз шум прыдарожных ракіт
Я пачую так блізка, так блізка
Гук знаёмы ад конскіх капыт.

Не забыць мне, што спасеньне трачу
Што душу вараждбою гублю,
Але знаю — яго я пабачу
І нарэшце скажу як люблю.

* * *

Калі паласу агнявую
На захадзе сонца праводзе, —
Пакінуўшы вежу старую,
У сад каралеўна выходзе.

Вось чмель прагудзеў аксамітны,
Вось ярка-зялёная мушка . . .
І урэшце з краіны блакітнай
Ўлятае маленькая птушка.

Як чутна яна запявае,
Што ёсьць і вясна, і каханьне,
І шчасьце бязь меры, бяз краю,
І першая горыч расстаньня.

Маркотна глядзіць каралеўна, —
Так сэрца жадае любові!
І хмурыць суворa і гнеўна
Кароль пасівелыя бровы.

* * *

Маладыя гады,
Маладыя жаданьні!
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасьце каханьня.

Помніш толькі красу,
Мілы тварык дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы.

Цёмны сад — вінаград,
Цьвет бяленькі вішнёвы, —
І агністы пагляд,
І гарачыя словы.

Будзь-жа, век малады,
Поўны сьветлымі днямі!
Пралятайце, гады,
Залатымі агнямі!

* * *

Выйшаў з хаты. Ціха сыпіць надворак.
Наплывае радасьць, зь ёю — сум.
Ня зьлічыць у небе ясных зорак,
Ня зьлічыць у сэрцы сьветлых дум.

Шмат зазнаў я горычы з нудою,
Што шчаміла, мучыла, пякла . . .
Ўсё ужо прайшло, сплыло вадою, —
Маладосьць ня зьнікла, не прайшла!

* * *

Сьцюжа, змрок . . . Я ізноў хвараваты.
Ў сэрцы — думак дакучных цяжар.
Заварыць-бы гарачай гарбаты,
Разагрэць-бы хутчэй самавар.

Запяе ён і тонка, і ціха,
Зазіяе наспод аганьком, —
І разьвеецца цёмнае ліха
Над маім абагрэтым кутком.

